

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ.***

# НАША СЛОВА.pdf



**Трэці год выдання № 27 (131) 4 ліпеня 2024 г.**

# 3 ліпеня - Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь 80-годдзе вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў

З 1 па 3 ліпеня ў Беларусі і замежжы адзначаўся Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь - галоўнае свята беларускай дзяржаўнасці. Рашэнне аб святкаванні Дня Незалежнасці 3 ліпеня было прынята ў 1996 годзе на рэспубліканскім рэферэндуме. У тым жа годзе дэкрэтам Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі было ўстаноўлена дзяржаўнае свята - Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дзень Рэспублікі). Ён адзначаецца ў дзень вызвалення Менска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў - 3 ліпеня 1944 года. Гэтае свята стала сімвалам нацыянальнага адраджэння нашай дзяржавы.




Важная традыцыя святкавання Дня Незалежнасці — урачысты сход у Палацы Рэспублікі, які аб’яднаў прадстаўнікоў розных сфер з усіх куткоў Беларусі. Службовыя асобы, вайскоўцы, прадстаўнікі прадпрыемстваў, людзі спорту і культуры, прадстаўнікі розных канфесій і нацыянальнасцяў, кіраўнікі дзяржаўных органаў і арганізацый, прадстаўнікі палітычных партый і ўсе, хто кожны дзень на сваім працоўным месцы захоўвае і памнажае дасягненні беларускай дзяржавы, разам сустрэлі галоўнае дзяржаўнае свята. Ключавы момант урачыстага сходу, прысвечанага Дню Незалежнасці — выступленне Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі.



Ключавым момантам святкавання 3 ліпеня стаў вайсковы парад. Парад атрымаўся найбольш прадстаўнічым паводле ўсіх папярэдніх. Акрамя 27 пешых разлікаў вельмі моцным аказаўся парад вайсковай тэхнікі.



- У гэтым парадзе ў параўнанні з папярэднімі істотна ўзрасла айчынная частка ўзбраення (айчыннай вытворчасці і распрацовак. - *Заўвага БелТА*), - падкрэсліў кіраўнік урада Раман Галоўчанка. Былі прадстаўлены тэхніка і ўзоры ўзбраення беларускага Дзяржкамваенпрама. Многія ўзоры тэхнікі, якія знаходзяцца на ўзбраенні беларускага войска і ішлі ў складзе калоны Узброеных Сіл, таксама былі дапрацаваныя, удасканаленыя айчыннымі спецыялістамі-збройнікамі.

Масава былі прадстаўлены падчас параду беспілотнікі, хоць раней іх былі адзінкі, заўважыў прэм'ер-міністр. Гэта, паводле яго слоў, адпавядае ўсім сучасным падыходам да вядзення баявых дзеянняў і забеспячэння бяспекі.

- Магу з упэўненасцю сказаць, што беларускія беспілотнікі адрозніваюцца, па-першае, шырокім спектрам прымянення, і па-другое, яны ўсе грунтуюцца выключна на айчынных рашэннях, што вельмі важна з пункту гледжання забеспячэння ўласнай імпартанезалежнасці, - падкрэсліў Раман Галоўчанка.

***Паводле БелТА.***





# Дзень Незалежнасці ў Лідзе




Цыкл святочных мерапрыемстваў у Лідзе, прысвечаных Дню Незалежнасці Рэспублікі Беларусь і 80-м угодкам вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, адкрыў мітынг на пляцы па вуліцы Савецкай. У ім прынялі ўдзел прадстаўнікі мясцовай улады, грамадскіх аб'яднанняў, працоўных калектываў, вайскоўцы, моладзь.

Першым узяў слова старшыня Лідскага раённага выканаўчага камітэта Сяргей Ложачнік.




- У жыцці кожнага народа ёсць лёсавызначальныя даты, якія становяцца кропкай адліку новага этапу гісторыі, - звярнуўся да лідзян кіраўнік раёна. - Для Беларусі такой вехай стаў дзень вызвалення сталіцы нашай Радзімы ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, 80-годдзе якога мы ўрачыста адзначаем сёлета. Наша незалежнасць заснавана на заслугах пакалення пераможцаў. Кожны год у гэты святой для нас дзень мы аддаём даніну найвялікай павагі бяспрыкладнаму подзвігу беларускага народа. Я хачу выказаць словы падзякі за стойкасць, адвагу і гераізм, праяўленыя ў гады Вялікай Айчыннай вайны, нашым ветэранам. За мэтанакіраванасць, працоўную дзейнасць у паваенныя гады, за тое, што яны і цяпер уносяць годны ўнёсак у будаўніцтва нашага грамадства.



Святочную праграму працягнуў урачыста-святочны марш лідскіх сілавых структур, ветэранаў Узброеных Сіл, навучэнцаў ваенна-патрыятычных класаў, удзельнікаў таварыства роварааматараў Лідчыны і Лідскага мотаклуба.

У знак яднання двух значных для беларусаў святаў - 80-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і Дня Незалежнасці Рэспублікі Беларусь - на пляцы з'явілася 80-мятровае палатно Дзяржаўнага Сцяга Рэспублікі Беларусь.



Удзельнікі мітынгу ўшанавалі памяць загінулых хвілінай маўчання, а потым усклалі кветкі і вянкі да мемарыяла часткам-вызваліцелям горада Ліды. Абеліск быў пастаўлены ў гонар тых, хто ў ліпені 1944 года ваяваў за вызваленне нашага горада.



Святкаванне Дня Незалежнасці працягнулася на Дажыначным пляцы. Для гараджан і гасцей горада была падрыхтавана святочная тэматычная праграма "Наша краіна! - Наша Беларусь!", у якой прынялі ўдзел прадстаўнікі райвыканкама, ганаровыя госці і працоўныя калектывы Лідскага раёна.

- Сёння мы святкуем Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь. Для нас, жыхароў нашай краіны, для Беларусі - гэта дата мае глыбокі сэнс і гістарычны змест, - звярнулася да прысутных на свяце старшыня Лідскага раённага Савета дэпутатаў Інэса Белуш. - 3 ліпеня - гэта баявая дата. Сёння трэба гаварыць і пра працоўныя подзвігі тых, хто здолеў аднавіць з руін разбураную краіну. Гэта велізарная праца многіх пакаленняў лідзян і беларусаў.

Традыцыйна ў Дзень Незалежнасці старшыня Лідскага раённага выканаўчага камітэта Сяргей Ложачнік павіншаваў Ганаровых грамадзян Лідскага раёна і выказаў падзяку за значны ўнёсак у развіццё нашага рэгіёна: Сяргею Бугасаву, пракурору Лідскага раёна з 1984 па 2003 г.; Станіславу Мамчыцу, лекару-ўролагу медыцынскага цэнтра "Экватар" сумеснага закрытага акцыянернага таварыства "Ліпласт-Спб", загадчыку ўралагічнага аддзялення Лідскай ЦРБ з 1988 па 2011 год; Ядзвізе Стацэвіч, дырэктару ДУ "Бярозаўскі псіханеўралагічны дом-інтэрнат для састарэлых і інвалідаў"; Андрэю Худыку, старшыні Лідскага раённага выканаўчага камітэта з 2004 па 2011 год; Уладзіміру Юфе, генеральнаму дырэктару ААТ "Лідскае піва" з 1986 па 2009 год.

Ад імя Ганаровых грамадзян Лідскага раёна слова прадставілі Андрэю Худыку:




- Я ганаруся, што мне давялося працаваць з вамі, шаноўныя лідзяне. Кожны перыяд часу як дзяржавы, так і чалавека, і любога рэгіёна не просты. Але, разам з тым, людзі жывуць і працуюць. І сёння я ганаруся і рады таму, што Лідчына развіваецца, квітнее. Лідчына - для людзей. У гэты знамянальны для нашай дзяржавы дзень шчыра хачу сказаць дзякуй краіне, Прэзідэнту, беларускаму народу за мудрасць, сілу, мужнасць, за тое, што захаваны стабільнасць і мір. Са святам!

На галоўнай сцэне выступілі лепшыя творчыя калектывы Лідчыны і артысты Палаца культуры. Канцэртная праграма была насычанай і не пакінула абыякавай ніводнага гледача.







Пасля канцэрту святкаванне Дня незалежнасці працягнулася каля Кургана Неўміручасці, ля пляцоўкі, дзе знаходзіцца выстава ваеннай тэхнікі пад адкрытым небам. Там гасцей чакала канцэртная праграма "Вас музыкі запрашаюць", у якой прынялі ўдзел народныя калектывы Лідчыны. Артысты выконвалі песні ваенных гадоў, прыпеўкі, народныя песні і танцы.






***Паводле lidanews.by.***





# "Непаўторная, святая, беларуская старонка"

ДУК "Лідская раённая бібліятэка імя Я. Купалы" сардэчна віншавала ўсіх жыхароў і гасцей нашай краіны з Днём Незалежнасці Рэспублікі Беларусь і 80-мі ўгодкамі вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.





У святочным настроі супрацоўнікі бібліятэк Лідчыны сустракалі ўсіх на адкрытай інтэрактыўнай бібліятэчнай пляцоўцы "Непаўторная, святая, беларуская старонка", дзе кожны мог акунуцца ў атмасферу прыгажосці і сілы беларускай зямлі. Для гасцей свята была падрыхтавана фотазона з адсылкамі да найважнейшых падзей гісторыі краіны.

*ТК "Культура Лідчыны".*

# Гістарычнае дасье "Ганарымся мы гісторыяй сваёй"

Знакавай датай адзначаны для нашай краіны 2024-ты год - 80-мі ўгодкамі вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

2 ліпеня, напярэдадні Дня Незалежнасці Рэспублікі Беларусь, у філіяле "Лідская гарадская бібліятэка № 4" адбылося гістарычнае дасье "Ганарымся мы гісторыяй сваёй" сумесна з аддзяленнем сацыяльнай рэабілітацыі, абілітацыі інвалідаў ДУ "ЛРТЦАН". На мерапрыемства быў запрошаны ветэран Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь Удовік Мікалай Анісімавіч, які падзяліўся сваімі ўспамінамі пра ваенныя гады. Ён акцэнтаваў увагу на тым, што мір і суверэнітэт - самая вялікая каштоўнасць народа. Гэта тое, за што нашы продкі аддалі жыццё і тое, што мы любым коштам абавязаны захаваць і перадаць новым пакаленням.





Бібліятэкар распавяла дзецям пра святкаванне Дня Незалежнасці Рэспублікі Беларусь, нагадала гісторыю паходжання назвы нашай краіны, пазнаёміла з традыцыямі беларускага народа.

*ТК "Культура Лідчыны".*




# Гарадзенскі тэалагічны каледж імя святога Казіміра вядзе набор навучэнцаў на 2024-2025 навучальны год




У Гародні распачаўся набор навучэнцаў у Тэалагічны каледж імя святога Казіміра на новы, 2024/2025 навучальны год.

**Інфармацыя для абітурыентаў**

Сярод галоўных мэтаў тэалагічнага каледжа:

- умацаванне веры;
- паглыбленне рэлігійных ведаў;
- падрыхтоўка спецыялістаў для рэлігійнай дзейнасці.

Навучэнцы каледжа маюць магчымасць атрымаць веды па тэалогіі (дагматычнай, маральнай, духоўнасці, пастаральнай), Святым Пісанні, гісторыі Касцёла, літургіцы, кананічным праве, патралогіі, сямейнай этыцы, сацыяльным вучэнні Касцёла, філасофскіх навуках (гісторыі філасофіі, тэадыцэі), хімічных залежнасцях (праблеме алкагалізму і г.д.), псіхалогіі, педагогіцы, катэхетыцы і іншых дысцыплінах згодна з нормамі і вучэннем Каталіцкага Касцёла.

Навучанне ў каледжы бясплатнае, працягваецца тры гады (з верасня па чэрвень).

Форма навучання - завочная.

Заняткі праводзяцца ў 1-ю і 3-ю суботу і нядзелю месяца.

Пасля заканчэння каледжа выпускнікі атрымліваюць адпаведны дыплом.

**Дакументы для паступлення:**

- заява (напісаная ўласнаручна, запаўняецца пры падачы дакументаў);
- аўтабіяграфія (напісаная ўласнаручна);
- рэкамендацыйны ліст ад пробашча парафіі;
- копіі пасведчанняў аб сакрамэнтах хросту і канфірмацыі;
- копія атэстата аб агульнай сярэдняй адукацыі або іншыя дакументы аб адукацыі;
- ксеракопія пашпарта (с. 31-33);
- 4 фотаздымкі (3х4);
- медыцынская даведка (выпіска з амбулаторнай карты);
- анкета (запаўняецца пры падачы дакументаў).

**Уступныя іспыты:**

- тэст на агульнае веданне Катэхізіса;
- кваліфікацыйная размова.

Кваліфікацыйная размова і тэст на агульнае веданне Катэхізіса адбудзецца 27 жніўня а 11-й гадзіне.

Дакументы прымаюцца пасля папярэдняга запісу з 18 чэрвеня да 23 жніўня у Гарадзенскай дыяцэзіяльнай Курыі па адрасе: г. Гародня, вул. К. Маркса, 4.

Дакументы падаюцца асабіста.

Папярэдні запіс і падрабязная інфармацыя па тэл.:
+375 (29) 887 71 05
або па электроннай пошце на адрас:
kaledz.tealagiczny@gmail.com

*Дырэкцыя Гарадзенскага тэалагічнага каледжа імя святога Казіміра.*

Фота: з архіву Гарадзенскага тэалагічнага каледжа.



# Катэхетычны каледж імя Зыгмунта Лазінскага ў Баранавічах абвяшчае набор навучэнцаў на 2024-2025 навучальны год




З чэрвеня Катэхетычны каледж імя Зыгмунта Лазінскага ў Баранавічах (Пінская дыяцэзія) абвяшчае набор навучэнцаў на 2024/2025 навучальны год. Уступныя экзамены пройдуць у жніўні і ў верасні.

Мэтай каледжа з'яўляецца паглыбленне рэлігійных ведаў, умацаванне веры, развіццё хрысціянскай культуры і падрыхтоўка спецыялістаў для працы ў парафіях у якасці катэхетаў і сямейных кансультантаў. Навучэнцы каледжа атрымліваюць веды па разнастайных прадметах: філасофскіх, тэалагічных, педагагічных і псіхалагічных, вывучаюць Святое Пісанне і гісторыю Касцёла.

Акрамя ведаў, навучэнцы здабудуць новых сяброў-аднадумцаў, змогуць прайсці духоўную фармацыю, развіць свае асабістыя таленты і атрымаюць шанц праявіць іх у служэнні Богу і людзям.

Навучанне ў каледжы працягваецца тры гады, з верасня па чэрвень. Форма навучання - завочная. Заняткі праводзяцца ў суботу і нядзелю двойчы ў месяц.

Навучанне бясплатнае. Іншагароднія студэнты забяспечваюцца начлегам і пасілкамі.

Прымаюцца асобы ад 18-ці гадоў.

Каб стаць навучэнцам Катэхетычнага каледжа, неабходна:

**1. Вызначыцца са спецыялізацыяй:**

**Катэхетыка** - прадугледжана для асобаў, якія жадаюць пасля заканчэння ўстановы працаваць у парафіях у якасці катэхета (выкладчыка катэхізіса).

Дадаткова на гэтай спецыялізацыі можна атрымаць наступныя кваліфікацыі:
- арганізатар літургіі;
- арганізатар рэлігійнага турызму і адпачынку;
- супрацоўнік каталіцкіх СМІ.

**Агульная тэалогія** (без права выкладання катэхізіса) - прадугледжана для асобаў, якія жадаюць паглыбіць сваю веру і веды, вывучаючы каталіцкую тэалогію.

**Сямейнае кансультаванне і кансультаванне ў галіне залежнасцяў** - прадугледжана для асобаў, якія жадаюць на прафесійным узроўні дапамагаць душпастырам у вырашэнні разнастайных духоўных і маральных пытанняў, звязаных з сужэнскім і сямейным жыццём вернікаў, а таксама з разнастайнымі залежнасцямі і сузалежнасцю.

**2. Прадставіць наступныя дакументы:**
- біяграфія (напісаная ўласнаручна);
- рэкамендацыйны ліст ад пробашча парафіі;
- копіі пасведчанняў аб сакрамэнтах хросту і канфірмацыі;
- 2 фотаздымкі 3х4;
- копія атэстата аб агульнай сярэдняй адукацыі ці іншыя дакументы аб адукацыі;
- копія пашпарта;
- медыцынская даведка.

**3. Здаць экзамен па катэхізісе і прайсці вусную кваліфікацыйную размову.**

Дакументы можна падаць раней альбо непасрэдна ў дзень здачы экзаменаў.

Уступны экзамен для абітурыентаў на выбар:
- 24 жніўня ў 11.00;
- 7 верасня ў 11.00.

**Адрас каледжа:**
вул. Тараса Шаўчэнкі, 6,
225411, г. Баранавічы.

**Падрабязная інфармацыя і запіс па тэлефонах:**
- тэл/факс: +375 (16) 367 64 19;
- МТС: +375 (29) 513 57 92;
- А1: +375 (29) 644 26 05;
e-mail: callegge@gmail.com;
сайт: www.catcollege.by.

*Тэкст і фота: бр. Корнэль Консэк SVD.*
*Catholic.by.*



# Легенды з Лідскай зямелькі ад вяшчуна Гедыміна Ліздзейкі

Лідскі замак… Галоўная славутасць горада Ліды… За 700 год велічныя сцены замка князя Гедыміна назапасілі безліч гісторый! Колькі падзей захавана ў старажытным гмаху прынёманскага горада! Вядома, замак не толькі трымаў аблогу, але ж і прымаў шаноўных гасцей, якія потым пакінуць значны след у гісторыі Вялікага Княства Літоўскага! Легенды, паданні, аповеды…

Вось каб разбудзіць гэтыя замкавыя камяні!!! Дык можам паспрабаваць акунуцца самым праз апавядальную вандроўку ў стагоддзі!

Вандроўнік - збіральнік народных скарбаў - казак, легендаў і паданняў падзеліцца з прыхільнікамі ў двары Лідскага замка цікавымі гісторыямі, якія народам перадаюцца з пакалення ў пакаленне. А іх жа нямала! Гэта пра Лідскі замак і яго былых гаспадароў, пра дзве сасны каля замка, пра дачку Гедыміна Лідзію, пра пакінутую варту князем Карыбутам, пра схаваны скарб ханам Тахтамышам. Адным з акцэнтаў стане - аповед пра язычніцкага першасвятара Крыва-Крывейтэ, вяшчуна Гедыміна - Ліздзейку, якія разгадваў сны князю.

Пасля гэтых аповедаў вандроўнік закліча сваіх спадарожнікаў у далейшую вандроўку. І такім чынам прывядзе іх у Дом Валянціна Таўлая на знаёмства з экспазіцыяй "Жылі-былі ў міфах так…".

Прыняць удзел у тэатралізаванай экскурсіі "Легенды з Лідскай зямелькі ад вяшчуна Гедыміна Ліздзейкі" МОЖНА БУДЗЕ ПА ПАПЯРЭДНІХ ЗАЯЎКАХ.

*Алесь Хітрун.*

ДУ «Лідскі гісторыка-мастацкі музей»
Тэатралізаваная экскурсія
Легенды з Лідскай зямелькі ад вешчуна Гедыміна Ліздзейкі
Лідскі замак (дваровая тэрыторыя)
Дом Валянціна Таўлая
(экспазіцыя "Жылі-былі ў міфах так...")
Па папярэдніх заяўках
lixmuseum.by
lixmuseum
mus@lixmuseum.by
lixmtavlaj@mail.ru
+375-154-541552
+375-154-622494

# Лідскае мастацтва ў Мастах

У аддзеле традыцыйнага мастацтва і рамёстваў Мастоўскага РЦК адчыніла свае дзверы выстава, прысвечаная святкаванню Купалля. На выставе прадстаўлены творы мастачкі Ірыны Вашкевіч і майстра выцінанкі Дар'і Шафак, якія працуюць у Лідскім аддзеле рамёстваў і традыцыйнай культуры.

З гісторыяй свята Купалля, а таксама чаму менавіта Купалле стала тэмай карцін, прысутных пазнаёміла Ірына Вашкевіч.

Для гасцей выставы Ірына прадставіла калекцыю палотнаў у тэхніцы алейнага жывапісу, зачытвала асабістыя вершы, а таксама разам з калегай Ірынай Дыдышка паказала невялічкую тэатралізаваную імпрэзу ў стылі батлейкі.

Дарослая і дзіцячая аўдыторыя з вялікай увагай і цікавасцю сачыла за прыгодамі галоўных герояў п'есы.

*ТК "Культура Лідчыны".*





№ 27 (131) 4 ЛІПЕНЯ 2024 г.
наша СЛОВА.pdf

*Навіны Германіі*

# Германія абламала новую казку Даніі на Еўра-2024

У зборнай Германіі ў сустрэчы з датчанамі мог змяніцца ўвесь цэнтр абароны. Жанатан Та зарабіў дыскваліфікацыю, а Антоніа Рудыгер атрымаў траўму. Тым не менш абаронца "Рэала" паставілі на ногі, і ён склаў пару з Ніка Шлотарбекам. Нечаканым ходам ад Юльяна Нагельсмана стаў перавод у запас Фларыяна Вірца. Талент з "Байера" саступіў месца ў аснове Лярою Зане.

Зборная Германіі пачала матч вельмі магутна - гуляла інтэнсіўна, хутка і разнастайна. Датчане спрабавалі вязаць немцаў у цэнтры, як сербаў у 3-м туры (тыя зрабілі ўсяго адзін удар у створ, хоць павінны былі перамагаць), але першыя паўтайма не вытрымлівалі хуткасцяў гаспадароў. Каманда Нагельсмана зарабіла серыю кутніх і пасля кожнага корнера выйгравала першы дотык. Краос выдатна падаваў, а каманда Каспера Юльмана прайгравала паветра, нягледзячы на тое што яе не назавеш нізкарослай. Ужо на чацвёртай хвіліне забіў Шлотэрбек, аднак гол зборнай Германіі адмянілі з-за фола Ёзуа Кіміха, які заблакаваў свайго апанента з парушэннем правіл.

Перажыўшы цяжкія 20 хвілін, зборная Данія здолела скарыстацца тым, што немцы, задаючы арытмію гульні, узялі паўзу. Каманда Юльмана выдала добры адрэзак з кантролем мяча, адсаплася і пачала даходзіць да штрафной суперніка. Першы момант у датчан атрымаў Крысціян Эрыксен, які паказаў цуд-прыём мяча пасля закіду з глыбіні. Але яго ўдар заблакаваў Рудыгер, які згуляў не меней выдатна ў гэтым эпізодзе. Потым Крысціян выконваў небяспечны штрафны метраў з 20 - патрапіў у сценку.

А на 35-й хвіліне суддзя Майкл Олівер раптам спыніў сустрэчу. Прычынай сталі ўмовы надвор'я - пайшоў моцны дождж, у небе загрымела, зіхацелі маланкі. Каб не рызыкаваць здароўем футбалістаў, ангельскі рэферы адвёў каманды ў падтрыбуннае памяшканне. Унікальны выпадак для чэмпіянатаў Еўропы. Амаль паўгадзіны зборныя Германіі і Даніі, а разам з імі і змоклыя заўзятары чакалі аднаўлення гульні. З даху дортмундскага стадыёна вада месцамі сцякала вадаспадам.

Пасля незапланаванага перапынку немцы зноў навалiліся на вароты датчан. Скандынавы даўжэй уцягваліся ў гульню. Супершанец для Кая Хаверца стварыў кросам Давыд Раўм - той з забойнай пазіцыі прабіў галавой проста ў Каспера Шмейхеля. Пашанцавала камандзе Юльмана. Пасля 45 хвілін перавага зборнай Германіі па ўдарах у створ была 5:0. Тым не менш лепшы момант у першым тайме ўжо ў кампенсаваны час стварыла Данія. Мануэль Нойер выратаваў гаспадароў ад гола пасля выхаду Расмуса Хойлунда сам-насам, выскачыўшы з варот і не даўшы сябе перакінуць. Малайцом, старына Мануэль.

Другі тайм таксама стартаваў з незалічанага гола.



Зараз ужо датчане бадзёра пачалі і забілі пасля стандарту. Выйграны падбор і ўдалы рыкашэт ад Роберта Андрыха, здавалася, падарылі абаронцу Ёакіму Андэрсану першы забіты за зборную Даніі мяч. Але далей адбылося штосьці неверагоднае - за нейкую хвіліну Ёакім перажыў увесь спектр эмоцый! Ад трыумфу да трагедыі. Яго гол адмянілі з-за афсайду ў партнёра, а ў наступнай атацы немцаў Андэрсан згуляў рукой у сваёй штрафной. Олівер пры дапамозе сістэмы VAR прызначыў пенальці. Хаверц бездакорна рэалізаваў 11-мятровы, адправіўшы мяч пад самую штангу.

Прайграваючы, зборная Даніі раскрылася, і немцы атрымалі вольную прастору для контрвыпадаў. Нагельсман выпусціў класічнага форварда Нікласа Фюлькруга ў пару да Хаверца. Зборная Германіі арганізавала два выхады сам-насам за некалькі хвілін. Калі Хаверц прабачыў датчан, то Джамал Мусіала - не. Шлотарбек зрабіў укідванне са сваёй паловы поля, галкіпер Шмейхель зрабіў некалькі крокаў наперад, аднак потым зразумеў, што не паспявае, і адступіўся назад. Небараку Андэрсану не хапіла хуткасці, таму ніхто не перашкодзіў Мусіале дабрацца да мяча і стрымана рэалізаваць момант.

Для Мусіалы гэта трэці гол на Еўра-2024 - хаўбек "Баварыі" дагнаў у спісе лепшых бамбардзіраў Жоржа Мікаўтадзе. Вялікае дасягненне, хоць у цэлым матч з Даніяй быў не самым паспяховым для Джамала. Да гэтага ён толькі аднойчы і недакладна прабіў, пасоў пад удар не аддаваў, здзейсніў толькі дзве паспяховыя абводкі за сем спроб.

Зборная Германіі перамагла з лікам 2:0, не выкарыстаўшы яшчэ некалькі шанцаў у фінале, тым не менш яе гульню без мяча цяжка назваць ідэальнай. Адзін толькі Хойлунд здзейсніў сем дотыкаў у штрафной немцаў і зрабіў чатыры ўдары (з 11 камандных). Але дзесьці зборнай Даніі бракавала дакладнасці, а ў іншых эпізодах выдатна дзейнічалі Нойер ці, напрыклад, Рудыгер. У Антоніа па два адборы і перахопы, па чатыры вынасы і заблакаваныя ўдары. Так згуляць на фоне траўмы - топ-клас!

***Анатоль Раманаў.***




*Лаўрэш Леанід*

# Віленскія цукерні Штраляў у нашай гісторыі

Па ўспамінах Пятраса Клімаса, фізічная бойка паміж Іванам Луцкевічам і Вацлавам Студніцкім у студзені 1916-га ў цукерні (кавярні) "Чырвоны Штраль", якая ў той час месцілася па адрасе: Георгіеўскі праспект, 12, прывяла да адыходу братоў Луцкевічаў ад краёвай ідэі, браты прыйшлі да высновы, што трэба арыентавацца не на аднаўленне Рэчы Паспалітай ці Вялікага Княства Літоўскага, а на стварэнне незалежнай Беларусі.

Заўважу, што віленскі архіварыюс у 1920-30-я гг. Вацлаў Студніцкі, як і яго брат Уладзілаў, абодва не былі агрэсіўнымі баевікамі, але былі гарачымі польскімі патрыётамі. Пісьменнік Юзаф Мацкевіч успамінаў пра іх: *"Прафесар Уладзіслаў Гізберт-Студніцкі (у апошнія гады ён абмяжоўваўся толькі другой паловай прозвішча) родам быў з Лівоніі і ўсёй сваёй істотай належаў XIX ст. "Прафесарам" яго назвалі пазней па трох прычынах: па-першае, некаторы час ён выкладаў у віленскім Інстытуце вывучэння Усходняй Еўропы; па-другое, гэтае званне падыходзіла яму па ўзросту; па-трэцяе, ён быў па-прафесарску рассеяны. Аб яго няўважлівасці хадзіла мноства гісторый. У яго быў брат Вацлаў, віленскі архіварыюс. Таксама нізенькі, падобны на брата, нібы блізнюк, і таксама рассеяны. Аднойчы, пасля збору Таварыства сяброў навук, Студніцкія пераблыталі паміж сабой свае паліто. Іншых такіх жа кароткіх паліто больш у раздзявальні не было. Заўважылі яны гэта, толькі калі выйшлі разам і ўжо рухаліся ў паліцэйскі ўчастак падаваць скаргу аб крадзяжы паліто. Можа, гэта і анекдот: хто б з-за такога пайшоў у паліцыю? Але вось праўдзівы выпадак. Раз, калі Студніцкі ехаў на рамізніку, ён раптам нешта ўспомніў, спыніў рамізніка, сышоў і накіраваўся ў адваротны бок. Рамізнік павярнуў каня і паслухмяна рухаўся ўздоўж тратуара, мяркуючы, што гэта такі прафесарскі капрыз. Толькі на трэцяй вуліцы ён звярнуўся: "Паночак, а дакуль гэта будзе?" Узнік буйны скандал, бо Студніцкі быў упэўнены, што ўвогуле ні на якім рамізніку не ехаў. У рэдакцыю ён, бывала, з'яўляўся ў крухмаленым каўнерыку, але без прышпіленага гальштука..."*.

Але ў гэтым артыкуле размова пойдзе не пра братоў Студніцкіх, а пра віленскія цукерні братоў Штраляў, якіх амаль што на працягу 30-ці гадоў з'яўляліся "кухняй", у якой рабілася наша гісторыя і стваралася наша культура. Здаецца, у нас пра гэтыя цукерні яшчэ ніхто не пісаў, тым прыемней мне будзе абагуліць матэрыялы, якія сабраліся за апошнія гады.

Перад Першай Сусветнай вайной і ў міжваенны час Вільня славілася сваімі якаснымі цукернямі, кавярнямі і рэстаранамі, пра якія з захапленнем пісалі розныя мемуарысты. Даўжэй за ўсе праіснавалі знакамітыя ўстановы Баляслава і Казіміра Штраляў.

Адзін з самых характэрных будынкаў на вуліцы Пілес, 26 (сучасны адрас) - так званы дом сігнатарыяў, будынак гэты згадваецца ўжо ў дакументах 1645 года. Ён неаднаразова мяняў уладальнікаў і перабудоўваўся, нарэшце, у канцы XIX стагоддзя яго ў стылі неарэнесансу перабудаваў новы ўладальнік, купец 2-й гільдыі Казімір Караль Штраль па праекце архітэктара Аляксея Полазава. У нішах другога паверха былі ўстаноўлены дэкаратыўныя скульптуры, якія сімвалізавалі сельскую гаспадарку і рыбалоўства, на трэцім паверсе - змешчаны два мужчынскія бюсты. Ніжні паверх займала папулярнае кафэ "Белы Штраль", якое працавала, недзе да 1945 года, другі паверх у 1917-1918 гадах займаў Савет Літвы, які 16 лютага 1918 года прыняў тут "Акт незалежнасці Літвы".

Пасля Першай сусветнай вайны жыхары Вільні




*Цукерня Казіміра Штраля, каля 1910 г.*

называлі цукерню ў гэтым доме "Белы Штраль" у адрозненне ад "Чырвонага" ці "Зялёнага" Штраляў.

"Белы Штраль" атрымаў такую назву з-за белых сцен і белых крэслаў у гэтай цукерні. Цукерня карысталася вялікай папулярнасцю: тут бавілі час выкладчыкі ўніверсітэта, з суседняй вуліцы Млыновай сюды часта прыходзіў паэт Канстанты Галчынскі, заходзілі святары, і таму цукерню называлі яшчэ "Штраль ксяндзоў" ці "Паштовы Штраль", бо насупраць, у былым палацы кардынала Юрыя Радзівіла да 1945 г. існавала Галоўная пошта. Тут можна было выпіць добрай кавы, гарбаты ці шакаладу, з'есці вельмі смачнае печыва, варта нагадаць, што Казімір Штраль быў яшчэ і ўладальнікам шакаладнай фабрыкі. У цукерні бывалі мясцовыя і замежныя журналісты, і ў адрозненне ад іншых падобных устаноў, для таго, каб людзі вольна размаўлялі, тут па вечарах не грала музыка. Але ў міжваенны час у цукерні "Белы Штраль" працавала кабарэ "Ксантыпа" (верагодна, удзень), выступалі вядомыя акцёры тэатра "Лютня", што таксама прываблівала наведвальнікаў.

У "Белым Штралі", як успаміналі відавочцы *"падавалі выдатную какаву ці шакалад з тортам, лепш за ўсё было выбраць бабку з ромам і духмяным мёдам"*. Разам з іншымі сталымі наведвальнікамі, тут часта бывалі абшарнікі з навакольных паветаў, тады можна было пачуць, прыкладна, наступныя размовы:

- О, васпане, які слодыч! Здымай боты і аблізвай пальцы. Пане афіцыянт, не маглі б вы даць мне яшчэ адну порцыю?

- Вы маеце рацыю, граф. У сваім жыцці я ніколі не еў нічога больш смачнага. І я таксама папрашу дадатковую порцыю.

У другім, меншым за першы, але больш утульным пакоі, на плюшавых канапах часта сядзелі закаханыя пары, і туды ніколі не заходзілі шукальнікі прыгод ці жанчыны лёгкіх паводзін, якіх у Вільні было багата.

У 1912 г. брат Казіміра - Баляслаў Штраль - заснаваў уласную цукерню на рагу Георгіеўскага праспекта (зараз Гедыміна) і вуліцы Татарскай, у будынку, пабудаваным у 1876 г. Гэта цукерня атрымала назву "Чырвоны Штраль", бо крэслы ў ёй былі абабіты чырвоным плюшам.

"Чырвоны Штраль" у міжваеннай Вільні лічылася вельмі шыкоўнай кавярняй. Віленец, пісьменнік Рафал Мацкевіч (Rapolas Mackonis, 1900-1982) гэтак апісаў гэту цукерню: *"Сюды прыязджае віленская эліта. Сюды прыязджаюць прыгожыя дамы-арыстакраткі, якія шукаюць любоўных прыгод, афіцэры і ўсе, каго ў Вільні лічаць багатым чалавекам. Шматлюдна было і ўдзень і ўвечары а таксама ў нядзелю пасля абеду, калі пасля службы ў касцёле св. Юрыя натоўп інтэлігенцыі прыходзіў у гэтую кавярню. Сюды прыязджаюць і журналісты, яны абменьваюцца паміж сабой апошнімі навінамі"*. Акцёры з суседняй "Лютні" і банкаўскія чыноўнікі з тагачаснай вуліцы Міцкевіча ахвотна заходзілі ў "Чырвоны Штраль" на каву і шакалад.

Іншы віленец, Генрык Сівіцкі ўспамінаў: *"Гэта было пясторнае, прыгожа абстаўленае месца, з вялікай лядоўняй і вялізнай вытворчасцю розных тартоў, піражных, пячэння і марожанага. Кожнае печыва клалася ў асобную папяровую плісаваную шкляначку, на якіх, вядома, была надрукавана назва фірмы. Уся прадукцыя прыгожа афармлена, разнастайнае марозіва на выбар, падаецца ў срэбных кубках, сталы з мармуровымі стальніцамі, хуткае і ветлівае абслугоўванне. Усё гэта ставарае добрую, пазітыўную атмасферу. Акрамя таго, існуе бясконцая колькасць разнастайных сталовых прыбораў: талеркі, міскі, сподкі, сподачкі, шклянкі, куфлі, філіжанкі для кавы і гарбаты, чаркі, збаны і збаночкі для малака і вяршкоў, цукарніцы, падстаўкі для сурвэтак і шчыпцы для торта"*.

Для нас галоўнае, што "Чырвоны Штраль" у Вільні быў улюбёным месцам сустрэчы інтэлігенцыі. Пісьменнік, публіцыст і рэдактар Чэслаў Янкоўскі на пачатку жніўня 1924 г. у цыклу апавяданняў "Прагулкі па Вільні" пісаў: *"… сяджу перад акном "Чырвонага Штраля" з радавітым віленцам за пасляабедзеннай гарбатай. Як многа можна ўбачыць праз шыбу "Чырвонага Штраля""! Гэта, як быццам не рухаючыся з месца, бачыш Італьянскі бульвар у Парыжы з якой-небудзь размешчанай у добрым месцы кавярні. Ад "Штраля" да "Штраля", ад Чырвонага да Зялёнага - гэта наша "Корса Віторыё Эмануэле"* (вуліца ў Турыне названая ў гонар караля Віктара Эмануэля - *Л. Л.*) *ці Кракаўскае "А - Б"* (папулярная пешаходная набярэжная каля Кракаўскага рынку - *Л. Л.*), *наша месца шпацыраў! … Не зважаючы на мяне, па той бок вялікага шкла цукерні, туды - сюды рухаюцца мінакі. Хочацца не адрываючы вачэй глядзець і глядзець. Праз шкло мяне пранізваюць нечыя прыгожыя вочы, праз хвіліну адзін з маіх палітычных апанентаў, вітаючыся са мной, ледзь прыпаднімае капялюш, і я адказваю яму жэстам рукі …, нейкі мой даўжнік "на-веру" праслізнуў міма шыбы, і я таксама зрабіў выгляд, што не бачу яго …"*. У іншых частках гэтага цыклу апавяданняў Янкоўскі яшчэ некалькі разоў згадвае кавярні Штраляў.

У 1924 г. член ЦК КПЗБ і ЦК Кампартыі Польшчы М. Гурын ці не штодня меў сустрэчы ў цукерні "Чырвоны Штраль" з беларускімі нацыянальнымі палітыкамі С. Рак-Міхайлоўскім, В. Рагулем, Б. Тарашкевічам, Р. Астроўскім, Ф. Ярэмічам, А. Луцкевічам.

Сын Антона Луцкевіча Лявон, у сваёй цудоўнай кнізе пра Вільню пісаў: *"Дом нумар 14 на Георгіеўскім праспекце (цяпер Гедыміна,12). На першым паверсе месцілася добра вядомая ў Вільні кавярня "Чырвоны Штраль", яе называлі як і да Першай Сусветнай вайны і затым у міжваенным часе ад прозвішча ўласніка, а інтэр'ер быў выкананы ўвесь у чырвоным колеры. У біяграфічным рамане Алега Лойкі пра Янку Купалу гаворыцца, што той быў даволі частым госцем у гэтай кавярні. У тым самым доме месцілася і майстроўня вядомага літоўскага мастака-фатографа Юрашай-*








**Цукерня “Чырвоны Штраль”, 1930-я гады**

*ціса. Знакамітая фатаграфія Алаізы Пашкевічанкі (Цёткі), адна з нямногіх яе выяваў, была зробленая якраз у Юрашайцісе".*

Ва ўзгаданай кнізе, Алег Лойка зазначыў, што ў 1912 годзе месцамі *"літаратурных паседзін былі і прыватныя кватэры, у першую чаргу Цёткі, У. І. Самойлы. Але ўлюбёным пунктам агульных паўсядзённых сустрэч саміх беларускіх віленскіх літаратараў была ўсё ж кавярня "Зялёны Штраль" ... на Георгіеўскім праспекце былі яшчэ іншыя гасподы - цукерні "Зялёны Штраль", "Чырвоны Штраль". ...* [Купалу] *пачалі часцяком бачыць у "Зялёным Штралі" ...".*

Вядомы навуковец, а з канца 1929 г. віленскі кансерватар (адказваў за захаванне помнікаў гісторыі у тагачасных Віленскім і Навагрудскім ваяводствах) др. Станіслаў Лорэнц пісаў у сваёй кнізе успамінаў "Віленскі альбом": *"Калі я ад'язджаў у студзені* (1930-га года - *Л.Л.*), *Ірэна* (жонка - *Л. Л.*) *засталася ў Варшаве і праз тры месяцы павінна была пераехаць у Вільню. Пасяліўся я часова ў гасцінным пакоі ваяводскай управы на вуліцы Вострабрамскай. А паколькі неўзабаве пачаўся перыяд выключна вялікіх маразоў, да -35° С, мне было вельмі холадна. Таму ўдзень і ўвечары я часта сядзеў у найбуйнейшай віленскай кавярні, у "Чырвоным Штралі" на вуліцы Міцкевіча* (назва вуліцы "за польскім часам" - *Л. Л.*) . *Добра памятаю тагачасны шлягер, які аркестр іграў тут кожны дзень, у ім меўся наступны прыпеў "І цалую вашу руку, мадам".*

Летам у садзе, які цягнуўся аж да вуліцы Віленскай і быў адгароджаны плотам, працавала летняя кавярня. Тут стаялі драўляныя сталы і плеценыя фатэлі. Паміж дрэвамі былі развешаны рознакаляровыя ліхтарыкі, якія познім вечарам стваралі рамантычную атмасферу. Асаблівасцю "Чырвонага Штраля" быў чорнаскуры гардэробшчык - рэдкая з'ява ў Вільні міжваеннага часу.

Адзін з самых шыкоўных гатэляў Вільні "Брыстоль" быў заснаваны ў 1902 годзе ў вельмі прыгожым і адным з самых вялікіх на той час будынку ў Вільні. Гэты гмах пабудавалі недзе ў 1900 годзе і напачатку ён належаў купцу Ісаку Смажаневічу а з 1909 года і да Другой сусветнай вайны - Піменавым. У будынку, пабудаваным у стылю неакласіцызму па праекце гарадскога архітэктара Канстанціна Караедава, месцілася не толькі гасцініца на 35 нумароў,




**Вільня, гатэль “Брыстоль”, каля 1917 г.**

але і канцэртная зала, рэстаран, некалькі крам і кватэр.

Пасля пажару ў тэатральнай зале ў 1904 годзе, будынак быў адрамантаваны па праекце аднаго з самых плённых архітэктараў Вільні Міхаіла Позарава, які, здаецца, спрычыніўся да пабудовы ці рэканструкцыі ўсіх гмахаў на вуліцы Георгіеўскай (цяпер праспект Гедыміна). Пасля рэканструкцыі, каля 1908 года, у гэтым будынку размясцілася яшчэ адна ўстанова - папулярная кавярня "Зялёны Штраль", які я ўжо згадваў вышэй.

Гэтую цукерню віленцы называлі "Зялёны Штраль" з-за інтэр'ераў, выкананых у зялёным колеры. Гэта ўстанова не прыцягвала элегантных дам і лічылася менш вытанчаный, і сюды, у пошуках багатых кліентаў, любілі заходзіць высокааплатныя "жрыцы кахання". "Зялёны Штраль", пераважна, наведвалі афіцэры віленскага гарнізона, заможныя купцы і вышэйшыя чыноўнікі, тут прызначаліся дзелавыя сустрэчы і вяліся перамовы, часта заключаліся гандлёвыя гешэфты.





Але зноў, для нас галоўнае, што сюды прыходзіла віленская інтэлігенцыя. Восенню 1912 г. за гістарычным столікам ў "Зялёным Штралі", дзе кожны дзень збіраліся палітыкі ўсіх народаў края, паўстала думка аб стварэнні польскай газеты, якая пашырала бы ідэі дэмакратыі і краёвасці. На гэтым паразумеліся палякі і беларусы. З польскага боку ў рэалізацыі гэтай думкі чынны ўдзел прымалі др. Юлій Сумарок, Юзаф Букоўскі і папулярны мастак Каміл Мацкевіч (Camillus). З беларускага - Іван і Антон Луцкевічы. Быў арганізаваны камітэт, які пачаў шукаць прыхільнікаў будучай газеты, гатовых дапамагчы грашыма. Хутка сабралі неабходную суму грошай, якіх хапіла, каб пачаць выдаваць газету з назвай "Краёвы Кур'ер", якая ў свой час адыграла важную ролю ў нашай гісторыі.

Муза Янкі Купалы, жанчына неверагоднай прыгажосці, акторка і беларускі педагог Паўліна Мядзёлка, у сваіх успамінах, магчыма, паблытала цукерні "Чырвоны" і "Зялёны" Штралі. Яна пісала (прыношу выбачэнне за вялікі, але важны для нас кавалак тэксту):

*"Вечарамі амаль уся віленская інтэлігенцыя збіралася ў цукерні "Зялёны Штраль". Тут, седзячы за кубкам чорнай кавы, можна было паслухаць Чайкоўскага, Леанкавала, Маснэ ў выкананні квартэта пад кіраўніцтвам вядомага віяланчаліста Тхоржа; тут можна пабачыць цікавых людзей: паэтаў і пісьменнікаў, акцёраў тэатра, жывапісца Рушчыца, карыкатурыста Камілюса*[1]*, скульптара Янкоўскага; тут часта можна сустрэць Янку Купалу, Змітрака Бядулю, Максіма Гарэцкага, Леапольда Радзевіча (апошнія часта хадзілі ўтраіх), Уладзю Станкевічанку, неразлучную з Косткай Буйла, ды ці мала каго! Кожная група мела свой асобны столік. У "Зялёны Штраль" не ўсіх пускалі. Для шырэйшай публікі існаваў "Чырвоны Штраль". (Назва гэтых дзвюх цукерняў на праспекце паходзіла ад колераў, у якія былі аформлены зала і мэбля цукерні). З аднаго боку такі парадак быў даволі добры: не сорам было і дзяўчыне пасядзець за столікам, ніхто яе легкадумным словам не пакрыўдзіць. Аднак гэта ахова "чыстай публікі" часам пераходзіла свае межы. Памятаю, прыехала да мяне ў Вільню мая маці. Павяла я яе да Штраля. І вось пры ўваходзе мяне прапускаюць як вядомую ўжо кліентку, а маме швейцар забараняе ўваход. Чаму? Бо на галаве ў яе, бачыце, не капялюш або берэт, як у мяне, а звычайная паркалёвая хустачка. Я з абурэннем патрабую прапусціць матку, але швейцар і слухаць не хоча. Тады я, пакінуўшы часова матку ля дзвярэй, увайшла ў залу і звярнулася па дапамогу да сваіх сяброў. Выклікалі самога Штраля і такі скандал яму ўчынілі, што сам пабег да дзвярэй, папрасіў у маці прабачэння і правёў яе ў залу.*

*Аднойчы, калі мы сваёй кампаніяй сядзелі за шклянкай чорнай кавы, квартэт Тхоржа выконваў польскую песню "Mow do mnie jeszcze!". Я вельмі любіла гэтую песню. Купалу яна таксама падабалася.*

*- Яначка, зрабі ты пераклад гэтай песні, - папрасіла я. І ён тут жа паклаў па столік лісток паперы і праз некалькі хвілін перадаў мне гатовы пераклад. Пасля не раз ён прасіў мяне праспяваць гэтую песню на беларускай мове. Я і дагэтуль яе памятаю:*

*Пяі ты яшчэ мне. За такою песняй*
*Уздыхаў я доўга, чакаў, як прадвесня.*
*Голас твой лечыць мне ў душы цярпенне.*

*Пяі ты йшчэ мне,*
*Пяі ты йшчэ мне!*

*Пяі ты йшчэ мне, людзі нас не чуюць.*
*Голас твой дзіўна песціць і галубіць,*
*У душу маю уносіць прасвятленне.*

*Пяі ты йшчэ мне,*
*Пяі ты йшчэ мне...*



***Паўліна Мядзёлка, каля 1910 г.***

[1] Каміль Мацкевіч - карыкатурыст. Забіты на вайне 4 жніўня 1914 г.

*Частымі наведвальнікамі цукерні Штраля былі кампазітары Людамір Рагоўскі, які напісаў музыку на словы Я. Купалы "А хто там ідзе?" і пэўны час кіраваў беларускім хорам, і Галкоўскі - дырэктар музычнай школы ў Вільні. Галкоўскі зрабіў шмат апрацовак беларускіх народных песень для а-капельнага хору. Яны абодва на грамадскіх пачатках наладжвалі цыклы дармовых папулярных лекцый для прапаганды музыкі, арганізавалі сімфанічны аркестр, які пад іх дырыжорствам часта даваў канцэрты на летняй эстрадзе Бернардынскага саду. Білеты на такія канцэрты былі вельмі танныя, даступныя для самай шырокай публікі. На адным з такіх канцэртаў была выканана "Беларуская сюіта" Л. Рагоўскага, якая складалася з трох частак: "Край беларускі", "Вечарынка ў карчме", "Дзяды"."*

Насамрэч больш дыхтоўнай цукерняй у той час быў "Белы", потым па коштах, здаецца, ішоў "Чырвоны", а для больш шырэйшай публікі існаваў "Зялёны Штраль".

Алег Лойка ў кнізе пра Янку Купалу пісаў, што люты 1915 года быў па-сапраўднаму лютым у жыцці Купалы, мо як ніводзін з месяцаў яго жыцця ў Вільні да гэтага: *"Была страшэнная непагадзь. Была нядзеля, 15 лютага. Гэты верш, як дзённікавы запіс. Назва запісу - "На вуліцы". Першым радком у ім: "Блудзіў па вуліцы я той, дзе сустрачаў яе", - па вуліцы Георгіеўскай, каля кавярні "Зялёны Штраль". "Яе - не ўцямлю - шчасце ці сваё няшчасце". Сапраўды, шчасцем ці няшчасцем было гэтае каханне для Паэта і Яна сама, пра якую, ходзячы па праспекце, зачуўшы "здалёку ад чыгункі... свістыццё", успамінаў паэт".*

Вядома ж, яна - гэта цудоўная Паўліна Мядзёлка, *"якую недзе туды, за даль, звезлі цягнікі, каб Паэт тут чуўся, як "здрадай схопленая ў клетку лань,- такі бяссільны, пазабыты, безуцешны".*

У сярэдзіне 1930-х у гэтай цукерні граў жаночы аркестр - сем маладых і ладных дзяўчат, якія заўсёды былі апрануты ў доўгія белыя сукенкі і выстройваліся на сцэне ў рад. Пасярэдзіне - дырыжорка, а справа і злева ад яе па тры жанчыны. З залы ўсё гэта выглядала як традыцыйны яўрэйскі сямісвечнік “мянора”, што несумненна паказвала іх нацыянальную прыналежнасць. Але аднойчы ў рэстаран уварвалася група антысеміцкіх малойчыкаў і запатрабавала, каб яўрэйкі зніклі са сцэны. Калі ім патлумачылі, што з музыкамі да пэўнай даты заключаны дагавор, яны заявілі, што*"закон яны не парушаюць, няхай яны адпрацуюць, колькі трэба"*. Але пазней абяцалі зайсці і праверыць. Перапалоханыя дзяўчаты ўжо не маглі граць, у іх трэсліся рукі, і пасля гэтага інцындэнту жаночы аркестр знік назаўжды.

Вось што пісаў пра "Зялёны Штраль" 1930-я гг. ужо вышэй згаданы віленец Рафал Мацкевіч: *"Мне не падабалася гэтае месца. Па-першае, работнікі пяра ці*

Cukiernie
K. SZTRALA
WILNO: Wielka, 2. Tel. 4-67.
Mickiewicza 22. Tel. 4-68
Polecają wyroby własnej fabryki znanej ze swej dobroci.
W cukierni przy ul. Mickiewicza Nr. 22
codziennie koncerty
od godz. 6 wiecz.

***Рэклама цукерняў Казіміра Штраля, 1930-я гады***

*пэндзля, а тым больш сцэны, рэдка пераступалі яго парог, па-другое, тут кава не мела таго асаблівага водару. Неяк, я праходзіў міма і ўбачыў праз акно двух барадатых неразлучных сяброў: рэдактара "Пшэглёду Віленскага" Людвіка Абрамовіча*[2] *і адваката Баляслава Шышкоўскага, які часам пісаў у "Пшэглёнд", а калі трэба было, у судзе абараняў рэдактара гэтага часопіса. Гэтыя два неразлучныя сябры пілі не каву - яны з вялізных кухляў пацягвалі піва". Магчыма, да канца 1930-х гадоў "Зялёны Штраль" стаў яшчэ больш "дэмакратычным".*

Тым не менш, у 1930-я гады віленскія "Штралі" ў нашым краі былі сапраўдным сімвалам і ўзорам установаў такога кшталту і, напрыклад, вядомы і пісьменнік Юзаф Мацкевіч параўноўваў гарадзенскую цукерню (кавярню) з адпаведнай віленскай: *"Кавярня "Еўрапейская", гэта як наш "Штраль". Заходжу туды штораніцы, каб з'есці сняданне. Кавярня "Еўрапейская" з'яўляецца класічным адлюстраваннем "пануючай" Гародні, такой знешняй і вельмі сучаснай".*

Апошні раз "Зялёны Штраль" згадваецца ў газетнай рэкламнай аб'яве 1940 года, якая абвяшчае: *"Сустрэча Новага 1941 года ў Зялёным Штралі. Джаз - выступленні артыстаў - танцы!".*

У новых уладаў меліся вялікія праблемы з творчай фантазіяй бо спачатку "Зялёны Штраль" становіцца "Закусачнай № 3", пасля - "Закусачнай № 7", а з 1950 года, гэта ўжо "Цэнтральны гастраном".

Сям'я Штраляў была сталай часткай віленскага культурнага ландшафту першай паловы XX стагоддзя. Некаторыя члены сям'і былі пахаваныя на могілках Роса ў Вільні, а апошні з гэтай сям'і - Ян Штраль - памёр у 1970 годзе ў Торуні.

[2] Гл. пра яго: Пра Людвіка Абрамовіча // Наша слова.pdf № 19 (71), 10 траўня 2023.



№ 27 (131) 4 ЛІПЕНЯ 2024 г.
наша СЛОВА.pdf

# Беларусы сустракаюцца з індзейцамі

## *Нью-Мексіка, Мексіка і Панама: Грэмза, Манцэвіч, Сямашка; сярод кніг, першых беларускіх пра Лацінскую Амерыку*

*(Працяг, пачатак гл. у № 19, 22, 24, 27, 30-34, 36-48, 50-52 (2022); 1-52 (53-104) (2023); 1-26 (105-130) за 2024 г.)*

Агляд першых уласна беларускіх кніжных выданняў пра Лацінскую Амерыку з іх індзейскім кантэнтам павінен найперш уключаць некалькі кніг 1970-х гг. Звестак непасрэдна пра індзейцаў у іх няшмат, але тое, што ёсць, - дастаткова характарыстычнае.

За перыяд да 1970-х мы не знаходзім кніг даследчага або агляднага характару пра Лацінскую Амерыку, выдадзеных у Беларусі (напрыклад, кніга пра Паўднёвую Амерыку С. І. Севіна, што выйшла ў Менску ў 1932 г., з'яўляецца перакладам з расійскага выдання).

А. С. Цернавой у даследаванні "Філасофія Кубы (1790-1878 гг.)" (Менск, 1972, іспанскі пераклад: Гавана, 1981) абмяжоўваецца цытатамі з К. Маркса пра генацыд індзейцаў, з У. Фостэра пра ролю ў гэтым царквы і канстатацыяй: *"На Кубе канкіста суправаджалася знішчэннем заваёўнікамі індзейцаў і іх багатай старажытнай цывілізацыі"*. Такім чынам, складваецца ўражанне, што ў філасофскую думку "неіндзейскай" краіны разгледжанага перыяду не пранікла ўсведамленне трагедыі карэннага насельніцтва.

Менскі лацінаамерыканіст Н. А. Міхайлідзіс у кнізе "Ідэалогія і палітыка антыкамунізму ў Лацінскай Амерыцы" (1975) прааналізавала і *"канцэпцыі нацыяналі-*

ОРГАНИЗАЦИОННАЯ ГРУППА БЕЛОРУССКОГО ИНДЕАНИСТСКОГО ОБЩЕСТВА
246049, Гомель,
22.2.1988 № 3

Уважаемый Олег Сергеевич !

Хотели бы обратиться к Вам с предложением о непосредственном участии нашей группы (во второй половине года, надеемся, общества) в деятельности, которую ведёт Белорусское отделение Общества советско-кубинской дружбы.

С вашей помощью мы смогли бы познакомиться с теми людьми в Белоруссии, которых особенно интересует доиспанское и колониальное прошлое Кубы и всей Латинской Америки. Не порекомендуете ли Вы кого-либо уже сейчас?

Нас также заинтересовали бы адресаты на Кубе, готовые поддержать нашу инициативу. Мы "индеанистское (индихенистское)" общество, а подобные ассоциации хорошо известны в Латинской Америке, в некоторых отношениях они проявили себя с самой лучшей стороны. Кто, по Вашему мнению, мог бы предотавлять белорусско-кубинскую иммиграцию в Белорусском индеанистском обществе. Нас уже давно интересует Петр Мирончук из Института социальных исследований в Гаване.

Предусматриваются ли какие-либо мероприятия белорусской общественности и вашего отделения в "предъюбилейный" период 500-летия "Открытия" Америки?

И последний вопрос. Не могли бы Вы дать информацию о деятельности местных отделений Общества советско-кубинской дружбы, особенно в Слуцке. Эти сведения необходимы прежде всего члену нашей группы Александру Снитко (участник фестиваля в Пинар-дель-Рио) и нашим друзьям из Клуба имени Эрнесто Че Гевары. Будем Вам очень благодарны за фамилии и адреса активистов.

Чем бы мы могли быть полезны вашему Обществу?

Руководитель ОГ БИО А.В.Симаков

***Письмо латиноамериканисту Олегу Терновому (Oleg Ternovoi) 1988-02-22***




***Filosofia de Cuba (1790-1878) por Oleg S. Ternovoi (Minsk, 1971, in Russian, BAIS Library, one of the 3 copies)***

